

# ВІЛЬНЯ ФАЛЬКЛЁРНАЯ



## САМА-ЭКСКУРСЫЯ АД ВІЛЕНСКАГА БЕЛАРУСКАГА МУЗЭЮ ІМЯ ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА







Прывітаньне! Падчас гэтай экскурсыі мы прагуляемся па віленскаму фальклёру: легендах, байках ды жартах. Вядома, тут сабранае ня ўсё па гэтай тэме, але мы хацелі зрабіць кароткі і даступны маршрут. А вы ўжо можаце пераказваць яго сваім сябрам, дапаўняючы сваімі знаходкамі. У дарогу!

# МАПА МАРШРУТУ



# 1.Званы касьцёла сьв. Язэпа і Нікадэма

Стоячы сьпіной да гораду й Вострай брамы, зірніце на лева. Цяпер там жылы дом, а калісьці быў касьцёл сьвятых Язэпа ды Нікадэма. Заснаваны ён быў у 1625 годзе, але ў канцы 18 ст. пажар так яго зьнішчыў, што рэшткі перарабілі на звычайны дом. Віленчукі кажуць, што апоўначы ўсё яшчэ чуваць званы, гукі арганаў і сьпевы — гэта мёртвыя ксяндзы устаюць вясьці імшу.

Калі прыйдзеце ў начы — мо й самі пачуеце.

# 2.Вострая брама

Цудадзейны абраз Вострабрамскай Божай маці славуты далёка па за межамі Вільні. Каб убачыць яго, прайдзіце трошку за самую браму ў кірунку горада й паглядзіце наверх. Бліскучыя штучкі вакол яго — гэта шматлікія мэдальёнчыкі, падарункі тых, каму Божая маці дапамагла. Маленькія ручкі ды ножкі ў падзяку за вылечаныя канцавіны, а таксама сэрцайкі ды запісы… Калі падымецеся на другі паверх і зойдзеце ў саму капліцу, убачыце іх проста безьліч.

Але да каго зьвяртаецца Божая маці, калі ёй самой патрэбная дапамога? Аказваецца, яна сама можа за сябе добра пастаяць.

Адзін такі выпадак выдаўся, калі падчас Паўночнай вайны на пачатку 18 стагодзьдзя Вільню захапілі швэды. Яны, як вядома, пратэстанты, і да каталіцкіх касьцёлаў мелі мала павагі, але за тое мелі шмат ахвоты паласавацца багатым касьцельным інвэнтаром. Хто бараніў капліцу Вострай брамы ад захопнікаў? Сама Божая маці саступіла з абразу ды ўступіла ў пераможную бойку са швэцкімі жаўнерамі. Тыя так перапужаліся, што больш і блізка не падыходзілі да гэтага краю гораду…

# 3.Віленскія пакутнікі

Прайшоўшы трошку далей у глыб старога горада, вы ўбачыце праваслаўны кляштар пры царкве сьвятога Духа. Калі зайсьці ў гэту царкву, там вы знойдзеце саркафаг, дзе спачываюць віленскія пакутнікі Антоні, Іаан ды Эўстафій, яшчэ вядомыя пад сваімі язычніцкімі імёнамі Кумец, Няжыла ды Круглец. Прыдворныя князя Альгерда, яны цьвёрда трымаліся хрысьціянскай веры ня гледзячы на катаваньні. У выніку былі яны павешаныя, і кажуць, што нават зьвяры не кранали іх целаў.

А вось што мяркуюць на гэты конт сучасныя літоўскія гісторыкі: што выпадкі рэлігійнай нецярпімасьці ў Вялікім Княстве Літоўскім больш менш адсутнічалі. Таму гісторыя гэтая выклікае вялікія падазрэньні. Па сучаснаму меркаваньню, пакутнікі насамрэч былі шпіёнамі Маскоўскага княства, за што й знайшлі сваю няшчасную канчыну. Але ж маскоўская прапаганда працавала ўжо тады, і з дапамогай бізантыйскіх настаўнікаў зрабіла зь няўдалага шпіянажу легенду пра пакутнікаў.

Цяжка сказаць, як там на самой справе было, але ня менш дзівосна тое, што муміфікаваныя целы праваслаўныя сьвятары падчас Першай сусьветнай вайны павезьлі ў Расею, дзе потым яны, праўда, выступалі ў якасьці экспанатаў у маскоўскім Музэі атэізму. Але хто пасьля такой вандроўкі з Масквы вярнуўся, ці тая ж гэта тройца, ці ўжо нейкія іншыя муміі — невядома.

## 4. Фурыя базыльянскіх мураў

Дайшоўшы да прыгожай барочнай брамы з левага боку, зьвярніце ў яе — цяпер вы ў Базыльянскіх мурах. Беларускім экскурсантам гэтае месца, мусіць, добра знаёмае — тут месьцілася Віленская беларуская гімназыя, пра выбітных вучняў ды выкладчыкаў якой можаце пачытаць на таблічках насупраць уваходу ў уніяцкі касьцёл.

Тут працаваў і першы беларускі музэй, музэй імя Івана Луцкевіча. Яшчэ раней тут была турма, у якой сядзелі студэнты Віленскага ўнівэрсытэту, між імі і Адам Міцкевіч, які ў сваёй кельлі пісаў знакамітыя “Дзяды”.

А вось яшчэ раней за гэта жыла аднойчы ў Вільні жанчына з пачварным характарам. Злосная, зайздросная й скупая, была яна кашмарам для навакольных. Але літэральным кашмарам для суседзяў яна стала памершы, калі пахавалі яе тут (раней пры Базыльянскім касьцёле былі й могілкі). Па начох на гэтых могілках яна мірсьцілася, уся паглынутая полымем, бразгочучы кайданамі на руках і нагах на ўвесь квартал аж да першых пеўняў.

Бяссонныя й перапужаныя мясцовыя жыхары на дапамогу запрасілі сьвятара Язафата Кунцэвіча. Кунцэвіч тут маліўся ўсю ноч, і паднялася жудасная бура, і пачварная памёрлая паднялася з магілы ды да ранку намагалася напужаць будучага сьвятога. Але той не спужаўся й маліўся да сьвітанку. А з раніцы загадаў жыхарам раскапаць труну. Там ляжала чырвонае, перакручанае цела, закаванае ў кайданы. Перапахавалі яго за горадам, і больш не было чуваць на тых месцах ніякіх начных пачварстваў.

# 5.БАЗЫЛІШАК

Стоячы на скрыжаваньні Субачоўкі й Бакшты азірніцеся вакол — бачыце старую цагляную сьцяну, а за ёй вялізны старажытны будынак? Гэта віленскі арсэнал, найбольш захаваная частка старой абарончай сьцяны, якая раней авівала ўсю тагачасную Вільню. А ў мірны час калісьці жыў тут шавец, які рабіў рознага кшталту абутак. Найлепш у яго атрымоўваліся цудоўныя шлюбныя чаравічкі. Хадзілі за імі ўсе віленскія прыгажуні... хадзілі, ды ня ўсе вярталіся.

Справа была ў тым, што быў у шаўца сакрэт выкшталцоных чаравічкаў, далікатнай іх скуры. У падзямельлі арсэналу, пад майстроўняй шаўца жыў пачварны цмок Базылішак. Забіць сваю ахвяру ён мог проста позіркам — кожны, хто на яго глядзеў, камянеў з жаху й адразу ж быў зжэрты. Паколькі цмокі адносяцца да біялягічнай групы паўзуноў, яны час ад часу мяняюць скуру — гэтым і карыстаўся шавец, у цмокавай скуры таіўся сакрэт знакамітага яго абутку. А ўзамен шавец час ад часу Базылішку аддаваў прыгажуню, што прыходзіла прымяраць чаравічкі.

Аднойчы адзін хлопец, не дачакаўшыся з прымерак каханую, пайшоў разьбірацца. Напужаны кравец распавёў пра Базылішка, але папярэдзіў яго — нічога нельга зрабіць, бо на пачвару нават зірнуць нельга, адразу чалавек памірае. Хлопец вярнуўся дамоў, пакумекаў, і прыдумаў выйсьце — прыйшоў ён да цмока са шчытом, начышчаным да бляску так, што ў ім можна было пабачыць свой адбітак. Закрыўся ім — і цмок убачыў у адбітку шчыта самаго сябе, ды акамянеў ад жудаснага ўласнага выгляду.

Сваю нарачоную хлопец не ўратаваў, але ж выратаваў жыцьцё сотням наступных прыгажунь, якія браліся цяпер шлюбам са сваімі каханымі ў цалкам звычайным абутку, але за тое жывыя й ня зьедзеныя цмокам.

---

* Кажуць таксама, аднак, што люстравых шчытоў у Вільні ня знойдзеш і сапраўдным героем быў мясцовы цырульнік, – харобры як усе цырульнікі й разумны. Ён скарыстаўся сваім цырульніцкім люстэркам.

# 6.ЗАКЛЯТЫ СКАРБ БАКШТЫ

Кажуць, што тут, дзе цяпер паркоўка Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту, жыў калісьці чалавек незьлічоных багацьцяў, і дом гэты слыў цэлымі пакоямі золата ды срэбра, старадаўняй мэбляй ды выкшталцоным посудам.

Сярод яго багацьцяў было адно асаблівае — яго прыгажуня дачка. Праўда, гэты скарб меў і прыкры цень: славілася яна ня толькі пекнасьцю, але й злосным характарам ды пагардай. Пасьля таго, як тата ейны памёр, стала яна толькі больш зласьлівая.

Аднойчы йшоў міма старэнькі жабрак, які, убачыўшы багаты дом спадзяваўся знайсьці там прытулак на ноч. Сустрэў яго замест таго злосны сабака, які выскачыў да старога ды прыняўся яго кусаць. Гаспадыня й пальцам не паварушыла, каб спыніць гвалт. Пакрыўджаны й паранены стары палац пракляў — няхай бы дом ўвесь праваліўся ніц з прыгажуняй разам. Таго ж вечару разьюшылася пачварная бура. Адна з маланак патрапіла ў палац — і той сапраўды зьнік ад удару пад зямлю. Таму кажуць, што калі прыслухацца — тут можна пачуць глухія крыкі насельнікаў дому ды скавытаньне сабакі з пад зямлі.

# 7.Віленскі гер цэдэк

Як і ўсе гісторыі гэтай экскурсыі, гэтая — сапраўдная. Яна пра гістарычную асобу, графа Валянціна Патоцкага. Будучы разумным і заможным чалавекам, як разумным і заможным хлопцам пачатку 18 стагодзьдзя належыць, ён адправіўся вучыцца з нашых краёў у Парыж. Бавячы там час ён сутыкнуўся з мясцовымі габрэямі, зацікавіўся юдаізмам, ды вырашыў, што хоча таксама стаць іюдзеем. Такіх людзей, якія пераходзяць у юдаізм, называюць герамі. А перайшоўшы ў новую рэлігію, Валянцін узяў сабе новае імя — Абрам бэн Абрам.

Прыняўшы новую веру ў Амстэрдаме, Абрам пераехаў у беларускае мястэчка Ільля. Пайшлі чуткі пра новага, мудрага й пабожнага гер цэдэка. Асабліва зацікавіліся гэтымі чуткамі ў Вільні, дзе ня толькі на сына чакала сям'я Патоцкіх, але й касьцёльныя інквізытары палявалі на выхрыстаў. Выклікалі Абрама ў Вільню на суд. Год сядзеў ён у вязьніцы. Угаворвалі яго бацькі вярнуцца ў каталіцтва, угаварывалі біскупы, але хлопец застаўся пры сваёй веры. За тое прысуд яму быў вынесены — спаліць на вогнішчы.

---

* Іншыя лічаць, што гер-цэдэк палюбіў юдаізм ня абстрактна, а сьперш закахаўшыся ў габрэйку.

Экзэкуцыя адбылася тут, на Ратушным пляцы. Калі станеце да Ратушы тварам ды глянеце на права, убачыце шэры дом — гэта ён закурэў ад вогнішча сьвятога чалавека, і колькі яго не перафарбоўваюць у сьвятлейшы колер, усё адно на паверхню выступае сажа экзэкуцыйнага полымя.

А яшчэ кажуць, што попел па вогнішчы адзін мясцовы габрэй асьцярожна сабраў і пахаваў на габрэйскіх могілках у на той момант віленскім прыгарадзе Шніпішках. З пахаваньня вырасла дрэва, якое ў добрыя часы для віленскіх габрэяў квітнела, а ў дрэнныя нікла — і канчаткова загінула ў гады Галакосту.

# 9.МОТКЭ ХАБАД

Спынімся пасярод габрэйскага кварталу на гісторыю пра яшчэ аднаго выбітнага віленскага габрэя — Моткэ Хабада.
Гэта — знакаміты мясцовы хітрун, жартаўнік і герой шматлікіх анекдотаў. Напрыклад, аднойчы ён упаў з прыступак. Людзі ў яго пачалі пытацца:
— Мотэле, як жа ты так паваліўся?
— А гэта не я, гэта мая скура, — адпавёў той.
— Але чаму ж так гучна?
— Бо я быў унутры яе, - патлумачыў Моткэ.

А іншым разам Моткэ прыйшоў параночыць у гатэль. Але ж ня было там вольных месцаў. Тады Мотку прапанавалі падзяліць ложка на палову. Зранку сусед па ложку быў вельмі стомлены; гаспадар запытаў у яго, чаму ж так? А сусед адказаў: Моткэ забраў сабе палову па сярэдзіне ложка, а мне пакінуў рэшткі па краях.

Так ён праславіўся сваімі жартамі, што стаў прыдворным блазнам віленскага Гаона.

Яшчэ адна добра вядомая гісторыя — пра тое, як Моткэ пабіўся аб заклад з губэрнатарам, што палкай здыме сонца з неба. Атрымаў ён за гэта поўна губэрнатарскіх грошай ды ўвагі. Паглядзець прыйшоў увесь горад. Стаіць Моткэ з палкай, а на палцы крук. Стаіць і нічога ня робіць. Губэрнатар пытае яго, чаму ж ён не спускае сонца? А Моткэ адпавядае:
— Спусьціць сонца на палцы я спушчу, але ж ты мусіш сьпярша падчапіць яго на крук.

Слава Моткі разыйшлася далёка па сьвету, й гісторыі, распаведзеныя тут, былі запісаныя аж у Эстоніі, у месьце Тарту.

# 9.Прывід Дамініканскага касьцёлу

Калі ў нашых краях выбухнула паўстаньне 1863 году, утаймоўваць яго ў Вільню на пасаду генерал-губэрнатара паслалі Міхаіла Мураўёва, якому тут хутка прыліпла мянушка Вешальнік. Пра яго бытуе асобная легенда — насупраць губэрнатарскага палацу, цяперашняй прэзыдэнтуры, ён паставіў сабе помнік, і на яго дзень народзін ноччу віленчукі пастамэнт вымазалі воўчым тлушчам, каб зранку ўсе віленскія сабакі гаўкалі бы на помнік Вешальніку.

А тут, дзе вы цяпер знаходзіцеся, у падзямельлі Дамініканскага касьцёлу, Мураўёў загадаў зрабіць турму для паўстанцаў. Тут сядзеў і наш герой Кастусь Каліноўскі, і калі вы пройдзеце мэтраў дзесяць наперад па вуліцы сьвятога Ігната, то ўбачыце яму памятную дошку.

Падземны лябірынт даглядалі вайскоўцы, ды не было ім гэта проста — бо завёўся ў скляпеньнях касьцёлу дух. Адной ночы малады жаўнер паглыбіўся ў падземны калідор, шукаючы бязьветранае месцайка, каб прыпаліць папіросу — ды тут выскачыла на яго белая людзкая постаць, грозячыся яго забраць у труну. Юнак выляцеў з гмаху ды пакляўся больш і блізка не падыходзіць. І ягоныя паплечнікі строга адмовіліся трымаць у падзямельлі варту. З таго дня нічога Вешальніку не заставалася, як толькі адмяніць варту падзямельля Дамініканскага касьцёлу. А мы з вамі можам зрабіць выводзіны, што сярод сьмелых паўстанцаў былі ды псавалі кроў імпэрскім служакам ня толькі жывыя.

# 10.Касьцёл сьвятых Янаў

Апошняя наша гісторыя студзіць кроў у жылах кожнага мінака. Касьцёл сьвятога Яна слаўны ня толькі сваёй пекнай архітэктурай, але й шматлікімі пахаваньнямі (тут, дарэчы, можна ўбачыць і барэльеф беларускаму паэту Ўладзіславу Сыракомлі). Але ж у скляпеньні касьцёла месьцяцца труны пахаваньняў некалькі стагоддзяў.

Прыблізна ў годзе 1600-ым да іх далучыўся мясцовы багач. Хавалі яго з багатай працэсыяй — а таксама у прыгожай вопратцы ды пры выкшталцоных пярсьцёнках з бліскучымі камянямі, якія пераліваліся рознымі колерамі ў сьвятле сьвечак. Не засталіся яны не заўважанымі некалькімі роднымі памерлага, якія вырашылі гэтыя пярсьцёнкі ўкрасьці. Злавілі яны нейкага хлопца, чымсьці прывабілі, й прымусілі яго ўначы пракрасьціся ў капліцу ды зьняць пярсьцёнкі з нябожчыка.

Калі надыйшла ноч, хлопец прабраўся ў касьцёл ды падыйшоў да шыкоўна ўпрыгожанай труны. Запрыкмеціўшы бліскучыя ў месячным сьвятле пярсьцёнкі, ён прыняўся здымаць іх з пальцаў памерлага… ды раптам мёртвыя вочы шырока раскрыліся, а з сініх вуснаў вырваўся пякельны стогн. На стогн гэты адклікнуліся ўсе, хто быў пахаваны ў касьцёле, і пачаўся сапраўдны зомбі-апакаліпсіс: шкілеты й струхнелыя целы кінуліся ўздагон юнаку, які намагаўся ўскарабкацца чым вышэй па вітках барочнага алтару. Мора целаў пад ім бушавала да самага сьвітанку, пакуль першы гарадзкі певень не прагнаў нячыстую сілу назад у труны.

Перапужаны юнак пасьля гэтага адразу ж зьлёг з жарам, і праз пару дзён, бядак, памёр у трызьне.

ДЗЯКУЙ, ШТО ПРАГУЛЯЛІСЯ З НАМІ! БУДЗЕМ ВЕЛЬМІ РАДЫЯ, КАЛІ З ВАМІ ГЭТЫЯ ГІСТОРЫІ БУДУЦЬ ДАЛЕЙ ВАНДРАВАЦЬ ПА ВАШЫХ СЯБРАХ ДЫ ЗНАЁМЫХ.

А КАЛІ ЭКСКУРСЫЯ СПАДАБАЛАСЯ, МОЖАЦЕ ПАЧАСТАВАЦЬ НАС КАВАЙ :)





Тэкст падрыхтавала Паўліна Вітушчанка

ВІЛЕНСКІ БЕЛАРУСКІ МУЗЭЙ ІМЯ ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА, 2022
HELLO@VILNIA.COM